*С.Шушкевіч: Мы ствараем партыю прыстойных сацыял-дэмакратаў (стар. 2)*

*Праблема: чалавек зламаў нагу. Дзе ўзяць мыліцы? (стар. 2)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 35.380
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 24 чэрвеня 1997 | № 67 | Кошт свабодны

## Багатыя беларусы

**На руках у насельніцтва краіны, паводле розных падлікаў, знаходзіцца ад 2 да 5 мільярдаў долараў ЗША.**

Пра гэта, выступаючы перад дэпутатамі «палаты прадстаўнікоў», заявіў намеснік міністра эканомікі Андрэй Тур. Ёсць дзве прычыны, чаму людзі трымаюць свае зберажэнні дома і не ўкладваюць у банкі або інвестыцыйныя праекты, падкрэсліў намеснік міністра: у нас няма механізму для выгаднага ўкладання сродкаў і няма гарантый атрымаць свае грошы назад па першым запатрабаванні.

Гадавая патрэбнасць краіны ў інвестыцыях, якія яна можа рацыянальна выкарыстаць, складае 2-3 мільярды долараў.

*БелаПАН*

## МЗС перайшоў на ланч

У пятніцу ў Мінску знаходзілася дэлегацыя Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе начале з Оле Бьёрынгам — асабістым прадстаўніком дзеючага старшыні АБСЕ. Як паведамілі ў прэс-службе МЗС, кароткачасовы візіт быў прысвечаны гутарцы з міністрам Іванам Антановічам, якая скончылася ланчам.

**А.Д.**

## Востраў Свабоды чакае Антановіча

Афіцыйны візіт міністра замежных справаў Беларусі Івана Антановіча на Кубу адбудзецца 29 чэрвеня — 1 ліпеня. Па звестках з прэс-службы беларускага МЗС, праграма візіту прадугледжвае сустрэчы І.Антановіча з кіраўніцтвам Кубы, мяркуецца падпісанне міжурадавых пагадненняў аб бязвізавых паездках грамадзян, а таксама пратакола аб супрацоўніцтве паміж знешнепалітычнымі ведамствамі дзвюх краін.

*БелаПАН*

## Ціхіня стаў прэзідэнтам

Валерый Ціхіня ў мінулы чацвер правёў сваю першую прэс-канферэнцыю ў якасці прэзідэнта Беларускага фонду прававога супрацоўніцтва. Адна з асноўных мэтаў новай арганізацыі — абарона правоў чалавека.

**А.Г.**

## Моладзь стварае асамблею

Праблемы маладзёжнага руху абмеркавалі ў мінулую нядзелю на канферэнцыі ў Мінску прадстаўнікі 45 маладзёжных дэмакратычных арганізацыяў, якія сабраліся з усёй Беларусі. Для каардынацыі сваіх дзеянняў яны вырашылі ўтварыць маладзёжную Нацыянальную асамблею, устаноўчы сход якой мяркуецца правесці ў пачатку наступнага года.

**А.Г.**

## Сусветны банк і беларускі ўрад дамовіліся

**На мінулым тыдні быў падпісаны Мемарандум паміж Беларуссю і Сусветным банкам. Дакумент быў падрыхтаваны яшчэ ў першым квартале гэтага года, але перамовы зацягнуліся.**

У Мемарандуме канстатуецца, што рынкавыя рэформы ў Беларусі адбываюцца надзвычай павольна і неабходна іх паскорыць. Сярод іншага, урад пагадзіўся, што прадпрыемствы самастойна будуць выбіраць формы, сістэмы і ўзровень заработнай платы, абмежаванні па заробках будуць адмененыя. Плануецца адмовіцца ад практыкі «замарожвання» цэнаў, урад будзе паступова павышаць тарыфы на камунальныя паслугі, газ і г.д. Да канца года будзе змененая сістэма чыгуначных тарыфаў: грузаперавозкі стануць таннейшымі, а кошты пасажырскіх білетаў узрастуць.

Адзін з самых істотных пунктаў датычыць сістэмы сацыяльнай дапамогу насельніцтву. У адпаведнасці з Мемарандумам, урад павінен распрацоўваць механізмы адраснай дапамогі найбольш бедным. Рэгуляванне цэнаў на сацыяльна значныя тавары і паслугі прыводзіць да таго, што большую выгаду ад такіх мераў маюць багатыя, а не маламаёмныя.

У Мемарандуме прадугледжваецца, што сродкі Сусветнага банка будуць выдзяляцца Беларусі толькі пры выкананні зафіксаваных у дакуменце ўмоваў пераходу да рынкавай эканомікі. Спачатку Сусветны банк актывізуе супрацоўніцтва па сацыяльных праектах (у галіне энергазберажэння ў школах і бальніцах, гарадскога водазабеспячэння, аховы здароўя, сацыяльнай абароны, жыллёвай рэформы і г.д.). Па гэтай лініі СБ зможа выдзяляць да 25 млн. долараў у год. У далейшым магчымая распрацоўка інвестыцыйных пазык і крэдытных ліній да 200 млн. долараў у год.

Аднак Беларусь ужо неаднойчы зрывала выкананне ўзятых абавязацельстваў перад міжнароднымі фінансавымі структурамі. Эксперты адзначаюць, што ўрад пайшоў насустрач Сусветнаму банку на словах, і гэта дасць падставы для чарговай прапагандысцкай кампаніі. Між тым інвестары і міжнародныя арганізацыі ацэньваюць перспектывы супрацоўніцтва па рэальнай сітуацыі, а не паводле абяцанняў кіраўніцтва, і пакуль што бізнес-клімат у Беларусі характарызуецца як вельмі неспрыяльны.

**Ян ГАЛЕВІЧ**

# Лідэрам БНФ застаецца Зянон Пазьняк

*А Фронт ператвараецца ў нацыянальна-вызвольны рух*

З'езд Народнага фронту не абышоўся без сюрпрызаў. Мала таго, што лідэр БНФ вымушаны заставацца на эміграцыі, дык напярэдадні з'езду быў арыштаваны яшчэ і Лявон Баршчэўскі, які выконвае абавязкі старшыні Фронту і павінен быў рабіць даклад і весці з'езд. Яго забралі ноччу прама з дому і адвезлі за краты ў мінскі спецпрыёмнік. Аказваецца, тры месяцы таму Баршчэўскі быў завочна асуджаны на пяць сутак арышту за нейкі мітынг. Натуральна, Баршчэўскі нічога не ведаў пра гэты прысуд, але дзіўна, што і ўлады не спяшаліся прыводзіць прыгавор у выкананне, а вырашылі зрабіць гэта акурат перад з'ездам. Але яшчэ больш дзіўна іншае: праз 16 гадзінаў пасля арышту Лявона Баршчэўскага выпусцілі з турмы — але з умовай, што пасля з'езду ён на наступны дзень вернецца ў спецпрыёмнік адбываць пяцісутачнае пакаранне. Такая вось ліберальная ў нас дыктатура.

Так што раніцай у суботу Баршчэўскі сам адкрываў з'езд і рабіў даклад. Але першым быў даклад Зянона Пазьняка, які прыслаў свой выступ на відэастужцы — на сцэне быў пастаўлены тэлевізар, і 45 хвілін з тэлеэкрана прамаўляў старшыня БНФ.



*На здымку: Лявон Баршчэўскі, Вячаслаў Сіўчык, Вінцук Вячорка.*

Прапанаваныя Пазьняком канцэптуальныя тэзісы знайшлі адлюстраванне ў выніковых дакументах з'езда. У праграмнай рэзалюцыі адзначаецца, што *«ў Беларусі пануе дыктатура расійскіх марыянетак на чале з Лукашэнкам»*, таму рэжым *«бароніць не інтарэсы Беларусі і яе народа, а геапалітычны, эканамічны і ваенныя інтарэсы Расіі»*. БНФ лічыць, што выбары пры рэжыме Лукашэнкі не могуць быць сумленнымі і дэмакратычнымі ў прынцыпе, а таму: *«Народны фронт не будзе ўдзельнічаць у антыдэмакратычных лукашэнкаўскіх выбарчых фарсах, а скацэнтруе сваю дзейнасць на абароне незалежнасці краіны шляхам непасрэднай барацьбы з дыктатурай... На першы план выходзяць іншыя метады барацьбы з дыктатурай. Гэта — метады не вузкай палітычнай партыі, а шырокага, масавага нацыянальна-вызвольнага руху, які абірае канкрэтную тактыку дзеянняў з увагі на сітуацыю»*.

Выбары Сойма і старшыні БНФ праводзіліся шляхам таемнага галасавання. За Пазьняка прагаласавалі 282 дэлегаты, супраць — 5 чалавек. Выконваючым абавязкі старшыні БНФ з'езд абраў Лявона Баршчэўскага (285 — «за»).

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# У Лідзе змагаюцца з крыжамі

*Шэсць чалавек сталі перад судом*

**У Лідзе гарадскія ўлады вядуць барацьбу супраць мясцовай арганізацыі БНФ, якая спрабуе аднавіць помнік ксяндзу Адаму Фалькоўскаму, удзельніку паўстання Кастуся Каліноўскага.**

Ксёндз Адам Фалькоўскі, які з прыступак касцёла ў вёсцы Ішкалдзь зачытаў маніфест Кастуся Каліноўскага з заклікам змагацца *«за нашу і вашу волю»*, 24 чэрвеня 1863 года ў Лідзе быў пакараны смерцю. Хаця казацкая сотня спецыяльна затаптала месца пахавання ксяндза, пра яго не забыліся: людзі патаемна ўскладалі да магілы кветкі. У 1918 годзе на магіле з'явіўся чыгунны крыж, які прастаяў да 1940 года. Летась мясцовая арганізацыя БНФ паспрабавала аднавіць помнік — на магіле А.Фалькоўскага ў гарадскім парку быў усталяваны часовы драўляны крыж, які па загадзе мясцовых уладаў хутка знішчылі. Але жыхары горада не збіраліся адступаць. У пачатку года група лідчукоў звярнулася да гарадскіх уладаў з заклікам ушанаваць памяць земляка, аднак нават не атрымалі адказу. А новы драўляны крыж, які па іх ініцыятыве быў усталяваны 6 траўня на Радаўніцу, прастаяў усяго два дні — і зноў знік.

Між тым набліжалася гадавіна расстрэлу Адама Фалькоўскага — 24 чэрвеня. Напярэдадні гэтай даты лідская арганізацыя БНФ замовіла ў мясцовым касцёле імшу па Адаму Фалькоўскаму. Імша адбылася ўвечары 22 чэрвеня, а пасля набажэнства некалькі дзесяткаў вернікаў пайшлі за лідэрам мясцовых народнафронтаўцаў Станіславам Суднікам, які нёс невялікі драўляны крыж, у гарадскі парк. Побач з магілай ксяндза крыж укапалі ў зямлю, усклалі кветкі, праспявалі жалобныя песні.

*«Вось і ўсё мерапрыемства: не было ні шэсця, ні мітынгу, ані слова пра палітыку»*, — сцвярджае Станіслаў Суднік. Між тым улады паставіліся да падзеі інакш. Па версіі міліцыі, гэта было *«несанкцыянаванае шэсце»*, пасля якога было затрымана пяць яго арганізатараў і ўдзельнікаў. А вось па словах С.Судніка, спачатку міліцыянты не перашкаджалі вернікам, але потым пачалі хапаць людзей. Адразу схапілі 8 чалавек, потым дваіх выпусцілі, а на астатніх склалі пратаколы.

Трое з шасці былі адпраўленыя ў пастарунак і ўчора, у панядзелак раніцай, паўсталі перад гарадскім судом. Уладзімір Хрышчановіч, Аляксандр Пігулеўскі і Віктар Шырма атрымалі па 20 мінімальных зарплат штрафу (3 мільёны рублёў). Суд над Міхаілам Бурачэўскім, Віктарам Аўгусцінам і Станіславам Суднікам павінен быў адбыцца ў другой палове дня ў панядзелак, таму на час падпісання газеты ў друк вынік яшчэ не быў вядомы. Як лічыць сам старшыня мясцовай арганізацыі БНФ, яго могуць пакараць нават 15-сутачным арыштам. Цікава, што на апошніх выбарах С.Суднік быў абраны ў гарадскі Савет, аднак лідскія ўлады не прызнаюць ягоную дэпутацкую недатыкальнасць, спасылаючыся на тое, што цалкам новы гарсавет яшчэ не сфармаваны.

Яшчэ адна акалічнасць: па нашых звестках, трое з затрыманых 22 чэрвеня ў Лідзе напярэдадні бралі ўдзел у з'ездзе БНФ у Мінску. Што гэта — звычайная супадзенне ці імгненная помста ўладаў тым, хто ўпарта нясе свой крыж змагароў «за нашу і вашу волю»?

Колькі прастаіць «крыж ксяндза Фалькоўскага» — пакуль невядома, але, па звестках, у панядзелак раніцай крыж яшчэ стаяў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Слуги режима: будьте готовы!

**Председатель Верховного Совета Семен Шарецкий передал в редакцию СВАБОДЫ для публикации проект закона «О неприменении сроков давности за совершение должностными лицами преступлений, нарушающих права и свободы граждан». Данный законопроект был одобрен 28 мая собранием депутатов Верховного Совета 13-го созыва. Оппозиционные парламентарии считают, что именно этот закон необходимо принять в числе первых, как только в стране будет восстановлена конституционная законность. Видимо, так оно и случится. Но это будет завтра. А сегодня важно, чтобы и общественность, и должностные лица знали, чего ждать от оппозиции с ее приходом к власти.**

*ПРОЕКТ*

# Закон Республики Беларусь

## О неприменении сроков давности за совершение должностными лицами преступлений, нарушающих права и свободы граждан

Верховный Совет Республики Беларусь, исходя из того, что права человека являются высшей ценностью общества и государства, принимая во внимание, что государство должно гарантировать права и свободы граждан, закрепленные в Конституции и международноправовых актах, руководствуясь принципом неотвратимости наказания за совершенное преступление и учитывая международную практику неприменения сроков давности в отношении лиц, совершивших преступления против человечества, принимает настоящий Закон.

**Статья 1.**

Настоящим Законом снимаются временные ограничения для привлечения к уголовной ответственности должностных лиц, которые совершили преступления, нарушающие права и свободы граждан, начиная с 20 июля 1994 года.

**Статья 2.**

Деяния, совершенные судьями, работниками органов внутренних дел, прокуратуры, Комитета государственной безопасности, Совета безопасности, аппарата Администрации Президента Республики Беларусь, а также формирований, непосредственно подчиненных Президенту Республики Беларусь, членами Центральной комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов, депутатами Верховного Совета Республики Беларусь, вошедшими в состав Национального собрания Республики Беларусь, руководителями местных органов исполнительной власти, другими должностными лицами, подпадающие под признаки статей 130, 131, 131-1, 131-2, 132, 133,134, 135, 166, 166-1, 167, 167-1, 168, 172, 172-1, 173, 174, 175 Уголовного кодекса Республики Беларусь и причинившие существенный вред охраняемым законом правам и интересам граждан, не имеют сроков давности.

**Статья 3.**

Вопрос о привлечении к уголовной ответственности перечисленных в статье 2 настоящего Закона должностных лиц вправе ставить граждане, пострадавшие от противоправных действий должностных лиц, общественные объединения, политические партии, депутаты Верховного Совета Республики Беларусь или депутаты местных Советов. Депутаты Верховного Совета Республики Беларусь, вошедшие в состав Национального собрания Республики Беларусь, привлекаются к уголовной ответственности в порядке, определенном статьей 37 Закона «О статусе депутата Верховного Совета Республики Беларусь» и статьей 106 Закона «О Верховном Совете Республики Беларусь».

**Статья 4.**

Заявления и сообщения о совершении должностными лицами преступлений, нарушающих права и свободы граждан, направляются в органы прокуратуры по месту работы или проживания этих должностных лиц. В своих заявлениях граждане вправе требовать материального возмещения морального вреда, причиненного им незаконными действиями должностных лиц. Органы прокуратуры обязаны в установленном законом порядке рассмотреть поступившие заявления и сообщения.

**Статья 5.**

Предварительное следствие по делам данной категории производится по общим правилам уголовного судопроизводства.

**Статья 6.**

Судебное разбирательство дел о привлечении к ответственности должностных лиц, нарушающих права и свободы граждан, производится гласно. В судебном заседании имеют право принимать участие представители средств массовой информации, политических партий, общественных объединений, трудовых коллективов, депутаты Верховного Совета Республики Беларусь. В судебном заседании, по общему правилу, принимает участие государственный обвинитель.

Трудовые коллективы вправе направлять для участия в судебном заседании общественного обвинителя или общественного защитника. Подсудимый имеет все права, предусмотренные уголовно-процессуальным законодательством, в том числе право на участие в деле защитника.

Рассмотрение дел данной категории производится районными (городскими) судами в составе трех профессиональных судей. В случае, если в суде отсутствует необходимое количество судей, приглашаются судьи из других районных (городских) судов.

**Статья 7.**

При вынесении приговора в отношении лиц, признанных виновными в совершении перечисленных в статье 2 Закона преступлений, суд вправе назначить в качестве основного или дополнительного наказания в порядке статьи 29 Уголовного кодекса Республики Беларусь лишение права занимать должности в государственном аппарате на срок от одного года до пяти лет.

При наличии заявления о материальном возмещении морального вреда суд обязан вынести решение по этому вопросу.

**Статья 8.**

Руководящий орган республиканского общественного объединения или политической партии, группа депутатов Верховного Совета Республики Беларусь в количестве не менее одной трети от общего числа избранных депутатов Верховного Совета, а также общее собрание трудового коллектива государственного предприятия, организации, учреждения, вправе ходатайствовать об освобождении должностного лица, совершившего преступление, от уголовной ответственности.

Если будет признано, что ко времени рассмотрения дела в суде вследствие изменения обстановки совершенное должностным лицом деяние потеряло характер общественно опасного или это лицо перестало быть общественно опасным, суд выносит решение об освобождении данного должностного лица от уголовной ответственности и прекращает производство по делу. При принятии решения суд принимает во внимание случаи, когда должностное лицо действовало под принуждением, выполняя приказ или решение вышестоящего органа государственного управления.

**Статья 9.**

Обжалование и опротестование решения суда производится в порядке, предусмотренном уголовно-процессуальным законодательством.

**Статья 10.**

Настоящий Закон является составной частью и дополнением действующего уголовного и уголовно-процессуального законодательства.

*КОММЕНТАРИЙ*

# Зло будет наказано

**По просьбе редакции проект закона комментируют Владимир САВИЧЕВ — председатель комиссии Верховного Совета 13-го созыва по государственному строительству, генерал-лейтенант милиции, кандидат юридических наук, и Михаил ПАСТУХОВ — доктор юридических наук.**

Необходимость в разработке такого Закона вызвана тем, что в последние два года, особенно после так называемого всебелорусского референдума, началось массовое нарушение прав человека со стороны органов государственной власти и управления. Создается впечатление, что служащие государственного аппарата, и в первую очередь работники силовых структур, забыли конституционные положения о том, что человек — высшая ценность общества и государства (статья 2 Основного закона), что обеспечение прав и свобод граждан Республики Беларусь является высшей целью государства (статья 21). До настоящего времени никто не освобождал должностных лиц от их конституционной обязанности соблюдать Конституцию, законы и уважать национальные традиции (статья 52), а государство — от обязанности принимать все доступные ему меры для создания внутреннего и международного порядка, необходимого для полного осуществления прав и свобод граждан Республики Беларусь, предусмотренных Конституцией (статья 59).

Вместо неуклонного соблюдения норм Конституции и законов многие должностные лица, в том числе судьи, работники милиции, прокуратуры стали руководствоваться незаконными президентскими декретами и указами. Более того, людей стали судить за «нарушение» положений этих декретов, что напоминает печально известные сталинские времена со «скоростными» судами.

Те должностные лица, которые думают, что их противозаконные действия будут забыты и «списаны» за давностью, ошибаются. Эти приспешники режима должны знать: сколько бы Лукашенко ни находился у власти, законность восторжествует, и тогда придется отвечать перед теми, за счет кого они «выслуживались».

Для того, чтобы обеспечить неотвратимость наказания этих лиц за содеяное, следует снять временные ограничения для привлечения к уголовной ответственности должностных лиц, нарушивших права и свободы граждан. За точку отсчета следует взять 20 июля 1994 г., когда пришел к власти «виновник» массовых нарушений прав человека в Беларуси — Лукашенко. С этого времени началась кампания по игнорированию норм Конституции и законов Республики Беларусь, сопровождавшаяся нарушением прав и свобод граждан.

Какие же конкретные составы преступлений включены в проект Закона?

Среди них значатся предусмотренные следующими статьями Уголовного кодекса:

Статья 130 *«Воспрепятствование осуществлению избирательного права»;*

Статья 131 *«Подлог избирательных документов, заведомо неправильный подсчет голосов или нарушение тайны голосования»;*

Статья 131-1 *«Нарушение законодательства о народном голосовании (референдуме»);*

Статья 131-2 *«Незаконное использование денежных средств и материальных ресурсов при подготовке и проведении выборов»;*

Статья 132 *«Нарушение неприкосновенности жилища граждан»;*

Статья 133 *«Нарушение законных прав профсоюзов»;*

Статья 134 *«Нарушение законодательства о труде»;*

Статья 135 *«Нарушение тайны переписки, телефонных переговоров и телеграфных сообщений»;*

Статья 166 *«Злоупотребление властью или служебным положением»;*

Статья 166-1 *«Бездействие власти»;*

Статья 167 *«Превышение власти или служебных полномочий»;*

Статья 167-1 *«Понуждение к неисполнению решений Конституционного суда Республики Беларусь»;*

Статья 168 *«Халатность»;*

Статья 172 *«Привлечение заведомо невиновного к уголовной ответственности»;*

Статья 172-1 *«Вынесение заведомо неправосудного приговора, решения, определения или постановления»;*

Статья 174 *«Заведомо незаконный арест или задержание»;*

Статья 175 *«Принуждение к даче показаний».*

Среди должностных лиц, подпадающих под действие закона, можно выделить несколько групп.

**Первую группу** составляют судьи, работники органов внутренних дел, КГБ, прокуратуры. Для них характерно то, что они выступали исполнителями указаний и директив исполнительной власти и непосредственно нарушали права и свободы граждан. В частности, это могло выражаться в виде вынесения судьями неправосудных постановлений по делам так называемых «нарушителей» президентского декрета № 5 (ст. 172-1 УК), в виде заведомо незаконного задержания участников массовых общественных акций (ст. 174 УК), принуждения к даче показаний (ст. 175 УК). Возможно говорить о нарушении неприкосновенности жилища граждан (ст. 132 УК), нарушении тайны переписки, телефонных переговоров и телеграфных сообщений (ст. 135 УК). Для работников милиции, занимавших руководящие должности и отдавших приказ «пожестче» разобраться с демонстрантами, нарушение прав и свобод граждан может выражаться в форме злоупотребления властью или служебным положением (ст. 166 УК), превышения власти или служебных полномочий (ст. 167 УК).

Особый спрос должен быть с судей, которые, вопреки присяге и требованиям закона, стали судить, руководствуясь декретами президента. Цинизм служителей правосудия заключается и в том, что каждому из них вполне понятна антиправовая сущность декретов.

Видимо, не забудут участники митингов, уличных шествий, демонстраций и пикетов тех работников милиции, которые сначала «работали» дубинкой и кулаками, а потом — выступали «свидетелями» в суде. Их действия могут быть квалифицированы как злоупотребление властью, которая им дана для охраны общественного порядка, но не для «охоты» на демонстрантов.

**Ко второй группе** должностных лиц можно отнести чиновников президентских структур власти: аппарата администрации, управления делами, службы безопасности, а также других структур, непосредственно подчиненных президенту.

Сейчас неизвестно, кто конкретно работает в этих «закрытых» структурах и чем они занимаются. Но придет время, и тайное станет явным, в том числе фамилии и дела. Тогда общество узнает, кто были те «люди в штатском», которые выслеживали свои жертвы из числа демонстрантов, а потом в безлюдных местах по-бандитски нападали на них и затягивали в машины.

Указанные лица могут нести ответственность за злоупотребление властью или служебным положением (ст. 166 УК), бездействие власти (ст. 166-1 УК), превышение власти или служебных полномочий (ст. 167), понуждение к неисполнению решений Конституционного суда Республики Беларусь (ст. 167-1 УК).

**Третьей группой** должностных лиц, подлежащих ответственности по данному Закону, являются члены Центральной комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов, а также члены окружных и участковых избирательных комиссий. Они могут отвечать за подлог избирательных документов, заведомо неправильный подсчет голосов или нарушение тайны голосования (ст. 131 УК).

Не исключается уголовная ответственность некоторых депутатов Верховного Совета Республики Беларусь, вошедших в состав Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь, если в их действиях будут установлены признаки одного из преступлений, названных в предлагаемом Законе.

К ответственности могут привлекаться и другие категории должностных лиц. Например, руководители центральных органов государственного управления, судебных инстанций, если они совершили одно из деяний, предусмотренных в Законе. При этом неважно, что руководитель или иной чиновник работает уже в другом месте или на другой должности. Если граждане потребуют привлечь его к уголовной ответственности за нарушение их прав и свобод, он должен держать ответ за свои действия.

Статья 46 Уголовного кодекса Республики Беларусь закрепляет институт давности привлечения к уголовной ответственности. В соответствии с данной нормой лицо не может быть привлечено к уголовной ответственности, если со дня совершения им преступления истекли определенные сроки. По преступлениям, предусмотренным статьями 132, 133, 134, 135, 174 УК, сроки давности не превышают одного года со дня их совершения. По большинству же преступлений, о которых идет речь в проекте Закона, они составляют три года со дня их совершения.

Тем самым, предлагаемый Закон фактически не расходится с действующим Уголовным кодексом. Некоторые же изъятия объясняются невозможностью привлечения в настоящее время к уголовной ответственности виновных должностных лиц. При попустительстве вышестоящих начальников они сами себе разрешили нарушать права и свободы граждан. Время их ответственности переносится на будущее время, когда для этого будут соответствующие условия.

Несколько слов о порядке привлечения к ответственности должностных лиц, виновных в нарушении прав и свобод граждан. Он в полной мере соответствует действующему Уголовно-процессуальному кодексу Республики Беларусь, в частности, статьям 105 - 114.

С заявлениями и сообщениями о совершении должностными лицами преступлений вправе обращаться граждане, общественные объединения, в том числе политические партии, депутаты Верховного Совета Республики Беларусь и депутаты местных Советов как должностные лица. Закон представляет гражданам право требовать материальное возмещение морального вреда, причиненного им незаконными действиями должностных лиц. Это может быть хоть какой-то компенсацией за те унижения, которым подверглись граждане в период диктатуры.

Заявления и сообщения о данных преступлениях направляются в органы прокуратуры. В установленном порядке следователь или прокурор должен принять поступившие заявления и сообщения, провести их надлежащую проверку и вынести решение о возбуждении уголовного дела либо об отказе в возбуждении уголовного дела.

После проведения предварительного следствия материалы уголовного дела направляются в суд, который рассматривает его по существу. В процессе разбирательства суд определит вину каждого из должностных лиц, причастных к нарушению прав человека и воздаст каждому по заслугам. Но это не будет возрождение «сталинских троек». Основная задача судебных процессов над служителями режима будет заключаться в том, чтобы наказать зло и очистить государственный аппарат. Поэтому в качестве наказания может широко применяться лишение права занимать должности в государственном аппарате на срок от одного года до пяти лет.

Суд, учитывая содеянное должностным лицом и принимая ходатайства участников процесса, определит необходимость применения в отношении каждого лица наказания в виде лишения права занимать должности в государственном аппарате на определенный срок. К кому-то суд применит такое наказание, а к кому-то и нет.

Предполагается, что через судебное разбирательство пройдут все должностные лица, причастные к нарушению прав и свобод граждан: от рядового милиционера, применившего дубинку в отношении безоружного демонстранта, до высокопоставленного чиновника, отдававшего приказ применять силу в отношении граждан.

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

Зянон ПАЗЬНЯК



# Вызвольны рух

## 6. Прынцыповае пытанне

Адразу пасля лістападаўскага перавароту БНФ сказаў пра новыя задачы, аб'явіў аб пашырэнні нацыянальна-вызвольнага руху, аб перманентным змаганні з інтэграцыяй і акупацыйным рэжымам. Змаганне вялося няспынна ўсю зіму і вясну гэтага года метадам грамадскага пратэсту. Нацыянальна-вызвольны рух, як мы яго разумеем, — гэта ў цяперашніх абставінах ёсць змаганне супраць імперскай палітыкі Расіі за волю і незалежнасць Беларусі. Вызначальны прадмет руху і прынцып згуртавання гучыць так: ніякай інтэграцыі, ніякіх саюзаў з Расіяй.

Істотна разумець, што ў сітуацыі, калі грамадства пазбаўлена легальнага права на выбар і змену ўлады, калі растаптана прававая законнасць, Канстытуцыя, законы, то грамадства ў такім становішчы мае права на непадпарадкаванне і барацьбу з незаконным рэжымам. (Адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляецца народ.) Больш таго, калі гэты рэжым стварае пагрозу незалежнасці дзяржавы, калі ўнутраныя і знешнія антынацыянальныя сілы выконваюць дзеянні па ліквідацыі беларускай дзяржавы, то згодна з Канстытуцыяй і натуральным чалавечым правам грамадзяне Рэспублікі Беларусь абавязаны бараніць сваю дзяржаву і Бацькаўшчыну. Гэта іх святы доўг і абавязак. Такая пазіцыя вызвольнага руху (непрыняцце інтэграцыі) з'яўляецца абавязковай.

Тым часам шмат якія маргінальныя палітыкі, паражэнцы і спадарожнікі былой «антылукашэнкаўскай апазіцыі», апынуўшыся на вяршыні хвалі, прадаўжаюць па інэрцыі існаваць у 1996 годзе, імітуючы мітусню і палітычную актыўнасць. Яны, як і раней, супраць Лукашэнкі, але (як і раней) не супраць інтэграцыі з Расіяй. (Дакладней, яны за «інтэграцыю без Лукашэнкі». «Мы не против интеграции, но с Россией демократической», — удакладняюць іншыя.)

Паколькі ў новых варунках адносіны да Расіі сталі вызначальнымі для апазіцыйнага нацыянальна-вызвольнага руху, то з старымі хаўруснікамі трэба дакладна вызначыцца і дакладна размежавацца. Не могуць змагацца разам людзі, якія ставяць супрацьлеглыя мэты (супраць інтэграцыі і за інтэграцыю). Калі не размежавацца — гэта азначае зачыніць сабе перспектыву палітычнай перамогі, прынесці на сваёй спіне, на сваім карку зноў да ўлады банкрутаў і здраднікаў Беларусі.

Уявім наступнае. У выпадку перамогі грамадска-масавага змагання БНФ над рэжымам, маргіналы (лібералы і г.д.) паставяць знешне лагічнае пытанне аб аднаўленні дзейнасці легітымнага парламента (таго, які тройчы прадаў Беларусь). Еўрапейскія міжнародныя арганізацыі, якія ў выніку інфармацыйнага перакосу і маўчання БНФ, шчыра вераць, што Фронт разам з Вярхоўным Саветам, што «апазіцыяй» кіруе «апазіцыйны парламент» — падтрымліваюць іх. Далей «апазіцыянеры» (а пры такой балотнай сітуацыі і Ціцянкоў запішацца ў апазіцыянеры, калі пакіне Лукашэнку) запатрабуюць «давыбараў» у парламент. Прапанова будзе прывітаная ў Расіі («дэмакраты» Чарнамырдзін, Строеў і Селязнёў выкажуць падтрымку). Фронтаўская прафесура тут жа зноў у 25-ты раз захоча ўдзельнічаць у выбарах. Зноў дурная дыскусія: удзельнічаць — не ўдзельнічаць. Зноў пагроза расколу руху. Нарэшце давыбраны парламент збярэцца, і першае пытанне, якое яны паставяць на сесіі, — аб інтэграцыі з Расіяй. На гэтым — *finita*. Гэтыя інтэгруюцца хутка, на каленях палезуць, «чэво ізволіце».

Верагоднасць трапіць у сітуацыю поўнага палітычнага маразму, якую я апісаў вышэй, азначала б для Фронту палітычную смерць. Занадта вялікая цана, каб ігнараваць стандартныя патрабаванні.

*Не могуць змагацца разам людзі, якія ставяць супрацьлеглыя мэты*

У «апазіцыі» 1996 года палітычная ацэнка дзейнасці Вярхоўнага Савета 13-га склікання была свядома адсунута Фронтам на другі план. Бо была адна задача — імпічмент. Ацэнка, аднак, была жорсткая і негатыўная. Здрада і правал імпічменту толькі ўмацавалі гэтую негатыўную ацэнку. Тым часам я асабіста настойваў і пісаў С.Шарэцкаму, каб апазіцыйная рэшта дэпутатаў, Прэзідыум ВС і спікер не спынілі (як гэта неразумна зрабіў В.Ціхіня) сваёй фармальнай дзейнасці. Нам нельга змяншаць ці ліквідаваць апазіцыйныя рэжыму сілы і структуры. Іншае пытанне — аб месцы, ролі і функцыі гэтых сілаў і асобных людзей.

Вярхоўны Савет 13-га склікання ў большасці сваёй адразу выказаў жаданне і волю супрацоўнічаць з рэжымам Лукашэнкі. Фактычна ніхто з дэпутатаў, акрамя аднаго-двух чалавек, не адстойваў нацыянальныя інтарэсы Беларусі перад інтэграцыйна-акупацыйнай палітыкай Расіі. Гэты Вярхоўны Савет зацвердзіў вынікі антызаконнага і сфальшаванага лукашэнкаўскага рэферэндуму 95-га года, пацвердзіў скасаванне нацыянальна-дзяржаўнай сімволікі Беларусі і зняважлівы стан беларускай мовы ў дзяржаве. Гэты Вярхоўны Савет ратыфікаваў (пры асабістай дапамозе старшыні «міжнароднай» камісіі П.Краўчанкі) ганебны, здрадніцкі і антыбеларускі пакт Лукашэнкі—Ельцына ад 2 красавіка 1996 г. Супраць галасавалі толькі тры дэпутаты. І гэта не «пустая паперка», як кажа дэпутат С.Шушкевіч, які галасаваў за пакт (нічога не зразумеў і нічому не навучыўся). І ў палітыцы, і ў палітычнай гульні, у якіх узважваюцца лёсы ўлады і народаў, няма пустых паперак, тым больш у гульні з Расійскай імперыяй. (Я ўжо не кажу, што разважлівы не будзе галасаваць за пустую паперку.) Гэта гульня на смерць. Гэтая паперка і перспектыва яе прымянення, і ўсё, што за ёй стаіць, ужо другі год трасе наша грамадства. Сотні пабітых, зняважаных, арыштаваных, зачыненыя грамадскія фонды, забароненыя беларускія кнігі і газеты, зачыненыя беларускія школы, спаралізаваная беларуская эканоміка, разбураны беларускі бізнес, пакалечаныя лёсы і абалваненае ідыёцкай прапагандай грамадства — вынік пустой паперкі, якая праз год спарадзіла новую пустую паперку. І так будзе працягвацца, пакуль грамадства не даканаюць, альбо пакуль не з'явяцца людзі з хрыбетнікам, якія навучацца казаць «не».

Гэты Вярхоўны Савет асуджаў нават «бесчинства экстремистов БНФ» 24 сакавіка 1996 года (калі АМАП збіваў людзей). Намеснік спікера Г.Карпенка выйшаў на трыбуну ў парламенце, прылюдна адхрысціўся і асудзіў жалобную хвіліну маўчання па вялікім чачэнскім героі Джахары Дудаеве.

Адрачэнне ад імпічменту было апошняй здрадай гэтага Савета, хоць кіраўнікі яго цудоўна ведалі (я, дарэчы, напісаў пра гэта С.Шарэцкаму), што пасля адмовы ад імпічменту парламент перастане існаваць. Аднак жа адмовіліся. Чаму? А таму, што такая прырода і парода. Такі стыль жыцця ў палітыцы. Адна здрада цягне другую здраду. І так увесь час, пакуль будуць ставіць на гэтых коней.

96-ты год. Самы разгар барацьбы за імпічмент, вулічныя змаганні, сутычкі з АМАПам. У гэты час «апазіцыянер» намеснік спікера Г.Карпенка наведвае Маскву, шукае падтрымкі. Вярнуўшыся, заяўляе: без Расіі «нам» не жыць.

Не буду нічога каментаваць. Але хачу заявіць выразна і зразумела: ніколі беларускі нацыянальны рух, ніколі сумленны беларус не стане мець справу з людзьмі, што прадавалі ці схільныя прадаць Беларусь.

Не трэба таксама мець перабольшаных спадзяванняў на дапамогу Еўропы. Не трэба песціць ілюзіяў. Еўропу мала цікавяць нашы праблемы. Яна хоча надзейнасці і спакою і не жадае мець сабе пад бокам скулу на ўсходзе ў выглядзе дыктатарскай Беларусі. Пасля таго, як «апазіцыя» пацярпела паражэнне, а дыктатура ўмацавалася, наступны этап еўрапейскай палітыкі — ізаляваць дыктатуру і згладзіць яе вострыя вуглы. (І не важна, што коштам чужых нацыянальных інтарэсаў. Еўропе гэта не абыходзіць.) Потым — стварэнне прыймальнага варыянта супрацоўніцтва з прычасанай дыктатурай. Еўрапейская палітыка заўсёды была філістэрскай, і ніякі «гістарычны вопыт» на гэтыя яе якасці не ўплывае.

Тут, праўда, ёсць пэўная лагічнасць у тым, што ізаляваўшы рэжым, цяжка на яго ўздзейнічаць. БНФ, аднак, просіць Злучаныя Штаты спыніць фінансавую дапамогу Расіі за тое, што яна рыхтуе анексію Беларусі і ўскосна трымае рэжым Лукашэнкі. Злучаныя Штаты за супрацоўніцтва Расіі з *NATO* маглі б паставіць умову спыніць пагрозу беларускай незалежнасці з боку Расіі. Рычаг уздзеяння на рэжым у Беларусі — Расія, якая гэты рэжым і спарадзіла.

Тым часам Еўропа ўжо прыступіла да «зглажвання вуглоў», да мірэння Лукашэнкі з разагнанымі дэпутатамі і да «легітымізацыі» рэжыму. 20 траўня антылукашэнкаўская частка парламента згадзілася супрацоўнічаць з Лукашэнкам па ўнясенні змяненняў у лукашэнкаўскую канстытуцыю. Стварылі камісію па перамовах. Дзіцяці зразумела, што гэта шлях да прызнання правамоцнасці гэтай канстытуцыі і легітымнасці антызаконнага рэжыму. Вось і прыехалі, спадары.

Верагоднасць рэабілітацыі, на мой погляд, фармальна можа ўзнікнуць толькі ў С.Шарэцкага, паколькі ён згодна з Канстытуцыяй павінен выконваць абавязкі прэзідэнта краіны (пасля адстаўкі Лукашэнкі). Ці выкарыстае ён свой апошні шанец, калі лёс яму зноў яго падорыць, — ніхто не ведае. Малаверагодна. Зрэшты, гэта ўжо не будзе мець істотнага значэння — узнікнуць іншыя варыянты.

## 7. Калізіі

Мы, безумоўна, перажываем трагедыю як расплату за страшнае мінулае. Але адначасна мы перажываем яе як пакутлівы шлях да свабоды. І мы ўжо ўзышлі на яго разам з новым пакаленнем людзей. Заўтра, як кажуць валійцы ў Брытаніі, мы будзем ужо за вуглом.

Без пакутаў не атрымліваецца. Свабода тады дарагая, калі аплочана пакутамі, ахвярамі і крывёй. Такая яе цана. І калі яна яе прад'явіць — альбо плаці, альбо не і тады заставайся рабом. Выбірай.

Ні адно дзеянне па задушэнні свабоды, нават самае жорсткае, не ёсць абсалютна разбуральнае, калі існуе яму хоць малое супраціўленне. У гэтым ёсць крыніца аптымізму любой барацьбы. Растлумачу на прыкладах.

*Свабода тады дарагая, калі аплочана пакутамі, ахвярамі і крывёй. Такая яе цана*

Забарона беларускай сімволікі, бяспраўе, фальсіфікацыя рэферэндуму і хамскае пляванне ў твар нацыі выклікала вельмі цяжкі псіхічны ўдар, зрабіла страшэннае ўражанне на нармальных людзей. Некаторыя памерлі ад стрэсу, не вытрымаўшы ганьбы. Так, зроблена подлая велізарная шкода для беларусаў. А цяпер уявіце, калі б гэты рэжым існаваў бы пад бел-чырвона-белым сцягам і прадаваў бы Беларусь Маскве. Пад бел-чырвона-белым сцягам зачыняліся б беларускія школы, выступалі б Лукашэнка і Ціцянкоў, а амапаўскія падонкі з Пагоняй на шлемах білі б палкамі па галовах беларускіх дзяўчат за размову па-беларуску. Як бы такое людзі ўспрынялі? Цяпер жа ўсё лагічна: антыбеларускі рэжым пад сваім сцягам, а беларуская нацыя пад сваім. І які нам гэты сцяг стаў дарагі, святы, як мы яго любім, які ён харошы, як ён нас яднае.

Вялікія агульнаграмадскія ідэі, якія кажуць пра неабходнасць вялікіх грамадскіх пераменаў, заўсёды патрабуюць адкрытага змагання, адкрытых дэкларацыяў і канкрэтных сімвалаў. Прынцып такі: запальваем свечку і ставім на стол, каб бачылі ўсе. Тады прыдуць. Таму, хто, запаліўшы свечку, паставіў яе пад ложак (каб не ўбачылі і не патушылі), ні на перамогу, ні на падтрымку спадзявацца не трэба. Вялікія ідэі патрабуюць змагароў і смелых людзей. Гэта ўніверсальны прынцып, які прывёў да ўсталявання хрысціянства і сусветных рэлігій, да перамогі нацыянальных ідэяў і стварэння незалежных дзяржаваў, да грамадскіх пераменаў. Нашая ідэя — гэта беларуская ідэя.

Побач з адкрытасцю і барацьбой заўсёды існуе свядомасць філістэрская, якая робіць выбар, але няздольная да змагання. Яна падпісваецца псеўданімам. Гэтыя людзі схільныя ставіць запаленую свечку пад ложак. Яны выступаюць з пазіцыяў разумнікаў. Яны таксама за ідэю, але разумнейшыя за яе. Яны раяць «не высовываться», «не выпячивать белорусский язык», («хотя мы за»), «не выступать открыто против КПСС» («хотя мы понимаем...»), «не выступать против России» («пакуль тое ды гэтае»), «не писать о русском империализме и его опасности» («хотя все правильно») і г.д. І, дадам, хоць артыкул аб імперыялізме быў для іх першым «лікбезам» у разуменні рэальнай палітыкі, лікбезам, які яны так і не засвоілі. Палемізаваць з «разумнікамі» немагчыма (і не трэба марнаваць час). Яны ўсё роўна «разумнейшыя».

За мяжой стала відавочна, што каб міжнародная супольнасць падтрымала незалежнасць і дэмакратыю ў Беларусі, трэба ехаць у Амерыку. Цэнтр сусветнай палітыкі — у Вашынгтоне. Я ўяўляю, якая гара працы і невядомасці чакала ў Амерыцы. Цяпер нават цяжка паверыць, што гэтая гара пяройдзена, што адбыліся дзесяткі спатканняў з вядучымі палітыкамі і дзеячамі ЗША, кіраўнікамі камісіяў Кангрэса, Сената, Дзяржаўнага Дэпартамента, што адбыліся канферэнцыі і абмеркаванні беларускіх праблемаў, слуханні (брыфінгі) беларускага пытання ў Кангрэсе ЗША пры небывалай зацікаўленасці палітыкаў (зала была перапоўненая), выступы па амерыканскім тэлебачанні *(CNN)*, куды трапіць вельмі няпроста, супрацоўніцтва з праваабарончымі арганізацыямі і г.д.

Калісьці ў 1995 г. кіраўніцтва БНФ планавала зрабіць прарыў у міжнародным інфармацыйным вакууме вакол Беларусі. Хацелі выехаць у Варшаву і зрабіць прэс-канферэнцыю для замежных журналістаў пра стан у Беларусі. Цяпер можна толькі ўсміхнуцца з нашай наіўнасці, што планавалі кроплю ў моры.

За год знаходжання за мяжой мы з Сяргеем Навумчыкам зрабілі, напэўна, больш сотні такіх канферэнцыяў, выступаў і інтэрв'ю ў розных краінах. У польскіх гарадах мне прыходзілася выступаць па тэлебачанні і радыё ў адкрытым эфіры па 5—6 разоў на суткі (нават пасля поўначы). Ды і не гэта мела рашаючае значэнне. Вось і тут выходзіць таксама: не было шчасця, дык няшчасце дапамагло.

Вымушанае расстанне з Радзімай — няшчасце. Аднак фактам з'яўляецца тое, што вымушаная дзейнасць старшыні БНФ за мяжой аказалася больш эфектыўнай, чым дзейнасць усёй дыпламатычнай службы рэжыму Лукашэнкі, якая амаль поўнасцю складаецца з функцыянераў і агентаў расійскіх спецслужбаў і КДБ. Дыпламатычная машына Шэймана—Лукашэнкі, якая заўсёды дзейнічала ва ўнісон з рускімі амбасадамі і місіямі, пацярпела паражэнне. Узровень, на якім прымалі мяне ў афіцыйных колах Вашынгтона, быў вышэйшы, чым узровень, на якім прымалі лукашэнкаўскага пасла ў Амерыцы. У некаторых краінах кіруючыя асобы, з якімі я без праблемаў меў гонар сустракацца, на парог не пускалі перад гэтым да сябе лукашэнкаўскага міністра замежных справаў Антановіча. А гэта сведчыць аб тым, што нягледзячы на шалёную ўнутраную і міжнародную прапаганду па кампраметацыі БНФ з боку розных антановічаў, сапраўдны рэйтынг Фронту ў вачах прафесійных палітыкаў не знізіўся і не змяніўся.

Палітычнае дзеянне мераецца вынікам. А вынік такі, што міжнародная супольнасць не прызнала лукашысцкі рэжым, яго дзеянні і структуры. Вынік такі, што палітыка ў ізаляцыі. Вынік той, што міжнародная супольнасць цяпер значна лепш інфармаваная пра Беларусь, чым калі б усяго гэтага не было.

Усе захады па інкарпарацыі Беларусі, якія Крэмль і Лукашэнка робяць цяпер пад відам інтэграцыі, усе папяровыя саюзы Беларусі з Расіяй, падпісаныя Лукашэнкам і Ельцыным, з'яўляюцца крыміналам, яны не адпавядаюць Канстытуцыі Беларусі і не могуць быць прызнаныя міжнароднай супольнасцю, якая не прызнала рэжым Лукашэнкі, яго «канстытуцыю», «парламент», «рэферэндум». Беларускі народны фронт не прызнае іх.

Незаконнасць пактаў, неправамоцнасць дзеянняў Крамля і Лукашэнкі не здымае небяспекі над беларускай незалежнасцю. Расійская імперыя заўсёды ігнаравала законы і права. Стаўячы на хлусню, вераломства і сілу, яна імкнулася стварыць такім чынам новую палітычную рэальнасць і зморам прымусіць потым усіх гэтую новую рэальнасць прызнаць. Гэта тыповая палітыка вайны. Такім чынам свет быў некалі вымушаны прызнаць бальшавікоў і СССР, сталінскі пасляваенны падзел Нямеччыны, гітлераўскія аншлюсы і г.д. Ён гатовы быў цяпер прызнаць і знішчэнне Чачні, калі б чачэнцы не абаранілі сябе самі са зброяй у руках.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Лібералізм на заўтра

**Марцін КРУЛЬ,**
**дэкан гістарычнага факультэта Варшаўскага універсітэта**

На мяжы 80-90-х гадоў, у час пералому эпох, практычна ва ўсім посткамуністычным свеце панавала перакананне, што лібералізм у палітыцы і ў эканоміцы здольны забяспечыць багацце і стварыць лепшае грамадства. Цяпер гэты тэзіс падвяргаецца сумненням. Як гэта ні прыкра, магчыма, што ліберальны імпульс вычарпаў сябе. Гучаць новыя напорыстыя галасы, запаўняючы сабою той вакуум, які яшчэ застаўся пасля разбурэння камуністычнай сістэмы.

Яшчэ зусім нядаўна такія каштоўнасці, як свабода слова, свабодны рынак, права індывіда на тое, каб яго пакінулі ў спакоі, здаваліся свяшчэннымі. Але ў Польшчы, Чэхіі, Славакіі, Літве, Венгрыі і г.д. адбываецца своеасаблівы рух маятніка назад. У грамадскай думцы лібералізм пачынае звязвацца з уседазволенасцю, амаральнасцю, гомасексуалізмам, педафіліяй і іншымі грахамі. Лібералаў паказваюць як прыхільнікаў парнаграфіі, абортаў і свабоднай любові.

Было б апраўданым (і не выклікала б трывогі), калі б такая крытыка гучала з вуснаў старэйшага пакалення, трыдцыцяналістаў і нацыяналістаў. У Польшчы ж (і, дазволю сабе сказаць, у іншых краінах) справа выглядае інача. У наш час аспіранты варшаўскіх універсітэтаў публікуюць сур'ёзныя работы, у якіх лібералізм абвінавачваецца ледзь не ва ўсіх грахах свету.

Чаму ж маладыя, нядаўна атрымаўшы свабоду, пачынаюць так агулам яе адмаўляць? Рэч у тым, што свабоды, якія абвяшчае лібералізм, прыйшлі ў Польшчу і іншыя посткамуністычныя краіны ў вельмі спецыфічны момант. Старыя грамадскія структуры былі разбураныя, звычаі і норавы сацыялістычных часоў раптам зніклі, былыя нормы і няпісаныя правілы перасталі дзейнічаць. Падчас грамадска-маральнай рэвалюцыі (менш заўважнай у параўнанні з палітычнымі і эканамічнымі катаклізмамі) традыцыйныя (адвечныя, а не сацыялістычныя) каштоўнасці кшталту сям'і, сяброўства — аказаліся падарванымі, а царква была залішне занятая палітыкай, каб прыйсці чалавеку на дапамогу.

У часы перамен кожнаму даводзіцца выжываць самастойна, пасобку. Быць вольным, але адзінокім — вельмі няпроста. Развіццё ж ліберальнай практыкі і ліберальнай свядомасці патрабуе доўгіх дзесяцігоддзяў. Гэта відавочна, і тут не было б пра што гаварыць, калі б не рост злачыннасці, парнаграфіі і іншых паталогій сучаснага жыцця.

Прыватны прыклад — парнаграфія. Канечне, яна сама па сабе ніяк не звязаная з лібералізмам, існавала задоўга да нашых часоў і не мае палітычнага адцення. Лібералы, вядома ж, стараюцца змагацца з парнагрфіяй — але не шляхам забарон і абмежаванняў, а праз апеляцыю да добрага густу і розуму. Але людзі слабыя і лёгка паддаюцца спакусам. Наіўная вера лібералаў у чалавечы розум цягнецца яшчэ з XVIII ст. Але ж чалавеку ўласціва памыляцца, і таму яго трэба «падмацаваць» нормамі, што абапіраюцца на традыцыю, рэлігію, сям'ю і г.д. Аднак за часы камуністычнага панавання і посткамуністычнай ліберальнай уседазволенасці гэтыя каштоўнасці прыйшлі ў заняпад (заўважце, як хутка лібералізм і камунізм пачынаюць выглядаць братамі-блізнятамі!).

На сцэну выходзіць кансерватызм. У яго ёсць яшчэ адна прычына — страх. Лёгка зразумець, якімі страшнымі былі палітычныя, сацыяльныя і эканамічныя зрухі апошніх гадоў у вачах старых людзей, беспрацоўных, маламаёмных. Але падобна, што менавіта маладыя, адукаваныя і адносна забяспечаныя людзі імкнуцца пазбавіцца сваіх страхаў, зноў адкрыўшы для сябе ідэалы і стройную мараль. Антыліберальныя настроі ў Польшчы і іншых усходнееўрапейскіх краінах паказваюць, што і маладым людзям вельмі цяжка, але неабходна знайсці для сябе новую самаідэнтыфікацыю.

*© Project Syndicate*

*Независимые белорусские аналитики объединились*

**В Минске состоялось учредительное собрание нового общественного объединения — Белорусской ассоциации фабрик мысли. БФМ объединила руководителей семнадцати самых известных и авторитетных негосударственных исследовательских центров столицы и регионов Беларуси. Избран руководящий орган ассоциации — Координационный совет, председателем которого стал директор НИСЭПИ, доктор социологических наук, профессор Олег Манаев, заместителями председателя — президент Национального центра стратегических инициатив, кандидат экономических наук, доцент Леонид Заико и директор гомельского социологического центра «Оракул», кандидат философских наук, доцент Анатолий Касьяненко. Учредители нового общественного объединения отметили важную роль консолидации «третьего сектора» в формировании гражданского общества в Беларуси и приняли Декларацию БФМ.**

# Декларация Белорусской ассоциации фабрик мысли

Одной из важнейших причин углубляющегося политического и экономического кризиса в Беларуси является слабость структур и механизмов гражданского общества. Задолго до глобальных изменений в СССР и во всем социалистическом лагере на рубеже 80—90-х годов во многих странах Центральной и Восточной Европы проводилась упорная и кропотливая работа по подготовке людей, способных предложить и осуществить реформы. Именно благодаря этой работе возникшие впоследствии политические партии и движения смогли предложить и осуществить программы, основанные на ценностях и принципах демократии, рыночной экономики и прав человека. Так, успех польских и чехословацких демократов стал возможен благодаря многолетней деятельности «невидимых университетов» КОС-КОР и «Хартии-77». В Беларуси, к сожалению, не были глубоко проработаны социальные технологии перехода от тоталитаризма к демократии и укрепления суверенитета: государственные и негосударственные структуры, общество в целом оказались недостаточно подготовленными к независимости, к самостоятельному выбору собственного пути.

Для формирования и укрепления гражданского общества нужна объективная информация о положении дел в стране, об отношении властей и различных групп населения к важнейшим событиям и проблемам общественной жизни. Нужны также выводы и рекомендации, новые идеи специалистов, основанные на результатах профессионально проведенных исследований в области социологии, политологии, психологии, экономики, права и других социальных наук. Причем такая информация и рекомендации должны быть доступны для всех, кто заботится о собственной судьбе и судьбе страны. В демократических странах производством такой информации и новых идей занимаются многочисленные государственные и негосударственные научно-исследовательские центры, которые принято называть фабриками мысли. Однако в Беларуси информация, производимая государственными научно-исследовательскими центрами, зачастую необъективна и по-прежнему малодоступна, а их идеи трудно назвать новыми. Причина проста: эти центры находятся в полной зависимости от государства и потому просто обслуживают его интересы.

В то же время за годы независимости в стране возникло немало общественных и частных научно-исследовательских центров, позволяющих обществу объективно оценивать собственные проблемы и перспективы. Ресурсы этих центров несоизмеримы с государственными, но они предоставляют обществу гораздо больше объективной и доступной информации, непредвзятых и аргументированных оценок. Однако сами белорусские фабрики мысли находятся сегодня в трудном положении. Они нередко сталкиваются с недоверием или даже давлением со стороны государства, попытками различных политических сил использовать их в своих интересах, отсутствием реальной поддержки со стороны отечественного бизнеса. Продукция и услуги независимых исследовательских центров порой находят больший спрос за рубежом, чем в своей стране.

Для того, чтобы повысить эффективность взаимодействия друг с другом, с государственными и негосударственными структурами, чтобы общество имело возможность получать объективную информацию о важнейших социальных проблемах, тенденциях и перспективах, независимую профессиональную экспертизу различных социальных проектов и программ, чтобы повысить роль негосударственных исследовательских центров в подготовке реформ, становлении в Беларуси гражданского общества, мы решили объединить наши усилия и создать Белорусскую ассоциацию фабрик мысли (БФМ). Ассоциация будет стремиться к достижению своих целей через социальные исследования и широкое ознакомление общества с их результатами, проведение экспертиз и консультаций государственных и негосударственных структур, организацию разнообразных конференций и семинаров, издание информационных и аналитических материалов, развитие диалога между различными группами белорусского общества, обществом и государством.

*Минск, 7 июня 1997 г.*

**Альфер Сергей Аркадьевич** — директор бюро по NGOs Фонда поддержки демократических реформ им. Л.Сапеги, **Вардамацкий Андрей Петрович** — доктор социологических наук, профессор, директор лаборатории социометрических исследований «Новак», **Загуменнов Юрий Леонидович** — кандидат педагогических наук, директор Центра поддержки ассоциаций и фондов, **Заико Леонид Федорович** — кандидат экономических наук, президент Национального центра стратегических инициатив «Восток—Запад», **Касьяненко Анатолий Петрович** — кандидат философских наук, директор независимого социологического центра «Оракул» (г.Гомель), **Корнеенко Виктор Николаевич** — председатель общественного объединения «Гражданская инициатива» (г.Гомель), **Лукьянова Нина Георгиевна** — председатель Ассоциации негосударственных предприятий Витебской области (г.Витебск), **Люкевич Владимир Павлович** — кандидат философских наук, руководитель независимой социологической лаборатории «SRG» (г.Брест), **Манаев Олег Тимофеевич** — доктор социологических наук, профессор, директор Независимого института социально-экономических и политических исследований, **Подгол Владимир Михайлович** — кандидат философских наук, руководитель независимого Центра политических технологий, **Подольский Юрий Алексеевич** — руководитель информационно-аналитического центра Союза предпринимателей Могилевской области (г.Могилев), **Позняк Вячеслав Эдуардович** — кандидат философских наук, директор Международного института политических исследований, **Потупа Александр Сергеевич** — доктор философии, профессор, директор Центра исследований будущего, **Сивуха Валерий Иванович** — руководитель общественного объединения «Гуманитарная инициатива» (г.Могилев), **Федута Александр Иосифович** — сопредседатель общественного научно-аналитического центра «Белорусская перспектива», **Шеин Сергей Александрович** — кандидат психологических наук, руководитель Брестского независимого социально-психологического центра (г.Брест), **Шур Леонид Михайлович** — президент Витебского центра поддержки предпринимательства (г.Витебск).

***ДАГЕРОТИП***

# Не купить ли пистолет?

**Семен БУКЧИН**

«Мужчина должен быть вооружен, — сказал мне молодой знакомый. — Завтра иду в милицию, узнаю про условия». "Тебе угрожают? — спросил я его. — Есть проблемы?» «Да нет, — ответил он. — Просто жизнь такая паршивая... Хочется уважать себя. Ну, и на всякий случай, разумеется. Мало ли чего...»

Спустя несколько дней мы встретились. «Такая тягомотина даже с газовым пистолетом. А про серьезные вещи и не мечтай. Нет у нас демократии! Вон на Западе — покупай чего хочешь, никому нет дела. Даже в Польше, говорят, оружие продают свободно».

И я вспомнил, как во время одного из приездов в Варшаву в самом центре польской столицы набрел на оружейный салон «Калибр». Было пустовато, несколько подростков о чем-то спорили...

— А где же серьезный покупатель? - спросил я продавца.

— Неделю назад продали партию дорогих и модных пистолетов, — охотно ответил пан Марек. — Теперь ждем новую, тогда и люди будут.

— Поляки любят оружие?

— Невероятно! Можно сказать, влюблены! Это у нас генетическое свойство. К тому же, учтите, любовь становится особенно горячей, когда ее объект не всем доступен. Ну и, конечно, на спрос влияет преступность... А она у нас — увы! — растет.

Можно было бы поспорить с паном Мареком насчет особой польской любви к оружию. Эта тяга в крови, пожалуй, у мужчин всего мира. Еще с первобытных времен. Но спорам я предпочел обзор богатств салона «Калибр». Вот популярная итальянская «беретта». Пистолет сам ложится в ладонь. Есть разные модели — от двух до пяти тысяч злотых (тысяча злотых — примерно 300 долларов). А вот знаменитое ружье «Моссберг» — точно такое же, каким пользовался Микки Нокс, герой боевика «Врожденные убийцы». Оно дает мощную отдачу, но люди, поясняет пан Марек, хотят стрелять как в фильмах - навскидку и одной рукой. Ломают себе ключицы, но ни за что не признаются, что это ружье им не подходит.

Хорошим тоном считается приобретение «магнума» (magnum desert eagle), любимого револьвера другого ужасного киногероя — Грязного Гарри. Все это штуки дорогие. Но есть и подешевле. Из самых доступных - польский ТТ или, как его называют поляки, «тететка». Стоит 400 злотых. Набор патронов к нему - 6 злотых (около 2 долларов). Можно купить в рассрочку (сразу требуется внести 15% стоимости). Короче, достаточно иметь при себе 66 злотых, разрешение на приобретение оружия и свидетельство о постоянной зарплате — и можешь выйти из салона полностью вооруженным.

Но тут-то и начинаются проблемы. Управление варшавской полиции отклоняет треть заявок на разрешение приобрести оружие. Наибольшие шансы у тех, кто докажет, что уже были или могут быть жертвами нападений. Кроме того, нужно иметь постоянную работу. Общие жалобы на рост преступности не являются основанием для выдачи разрешения. И, наконец, нужно сдать экзамен и на умение пользоваться оружием, и на знание той части уголовного кодекса, которая касается его использования в целях самозащиты. Мало кто проходит через это сито.

Согласно новому законопроекту, приобрести оружие можно лишь по достижении 21 года (ранее порогом были 18 лет) и только получив положительное заключение специалиста, подтверждающего психическое здоровье, непривязанность «кандидата» к наркотикам и алкоголю.

— Иногда покупатель выглядит настоящим сумасшедшим, — говорит пан Марек. — Но я продаю ему пистолет, потому что у него есть разрешение.

Чаще всего оружие покупают охранники, бизнесмены, спортсмены и сотрудники специальных служб. Последние, как правило, ищут наиболее совершенные модели. Компактные, небольших размеров модели предпочитают ювелиры, сидельцы в обменных пунктах работники ломбардов, ну и, разумеется, дамы.

Владелец пистолета может пойти на стрельбище и опробовать свое приобретение. Полчаса стрельбы в «Зале Гвардии» стоит семь злотых. Большинство предпочитает укромные места за городом. Модным считается носить револьвер впереди, за поясом. Но это, считает пан Марек, наилучший способ потерять оружие.

Недавно в белорусской печати промелькнуло сообщение о том, что якобы и у нас рассматривается проблема продажи и приобретения гражданами оружия. До сих пор ружье мог купить охотник, член Белорусского общества охотников и рыболовов. О пистолетах и речи не шло... Поскольку у нас государство бюрократически разградуированное — есть просто граждане и есть «должностные лица» — то, безусловно, в первую очередь предполагается вооружить последних. Таким образом, «должностное лицо» станет «вооруженным должностным лицом». Что, несомненно, повысит уровень демократии в Беларуси... Особо привилегированным гражданам можно будет разрешить иметь пистолет-пугач.

Мой молодой знакомый с горя приобрел электрошокер. Но запретный плод сладок. Кто ответит на вопрос, сколько неучтенного оружия сегодня у населения Республики Беларусь? Наимоднейшие «беретта» и «магнум» — это замечательно. Но ведь мы — республика-партизанка... У нас и лушечка-сорокопятка может в хлевушке обнаружиться. Белорусы — народ запасливый.

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

Уладзімір АРЛОЎ, Генадзь САГАНОВІЧ

# Дзесяць вякоў беларускай гісторыі

## *Беларусь у Рэчы Паспалітай*

## 30 сакавіка 1689. Пакараны смерцю філосаф-вольнадумец Казімір Лышчынскі

Яго часта называюць беларускім Джардана Бруна. Наш зямляк кінуў клерыкальнай мафіі свайго часу не менш дзёрзкі выклік, чым ягоны італьянскі брат па духу. Гэтак жа трагічна склаўся і ягоны лёс.

Казімір Лышчынскі паходзіў са старадаўняга беларускага шляхоцкага роду Корчакаў. Ён нарадзіўся блізу 1634 года ў маёнтку Лышчыцы пад Берасцем. Навучанне ў езуіцкім калегіуме, потым у Кракаўскім універсітэце (паводле некаторых звестак і ў Віленскай акадэміі) дало Лышчынскаму выдатную адукацыю. Тады ж, у маладосці, ён браў удзел у маскоўскай, шведскай і турэцкай вайсковых кампаніях.

У дваццаць пяць гадоў ён уступіў ў Ордэн езуітаў, у трыццаць зрабіўся прарэктарам Берасцейскага езуіцкага калегіума. Наперадзе — бліскучая будучыня, якой будзе спрыяць ордэн. І замест гэтага — разрыў з Таварыствам Ісуса і вяртанне ў родавы маёнтак. Лышчынскі займаўся гаспадаркай, удзельнічаў ў мясцовых сойміках, ездзіў паслом ад павятовай шляхты на выбары вялікага князя. Вывучэнне права і паспяховая юрыдычная практыка прывялі яго на пасаду падсудка берасцейскага земскага суда. Яшчэ адзін клопат гаспадара Лышчыцаў — адчыненая ім у маёнтку школка, дзе ён вучыў сялянскіх дзяцей чытанню, ліку, пісьму і асновам навук.

Гэта — тое, што на паверхні. Але ў Лышчынскага было і іншае жыццё. Над старонкамі кніг антычных філосафаў і мысляроў эпохі Адраджэння, над тэалагічнымі і прыродазнаўчымі трактатамі ён шукаў адказы на небяспечныя, «грахоўныя» пытанні.

Езуіты не пакінулі адступніка без сваёй увагі. Сабраныя імі звесткі сведчаць пра змены светапогляду Лышчынскага: «Пагарджаючы таемствам хрысціянскага шлюбу, выдаў дачку замуж за сваяка... На богаўгодныя справы выдаткоўвае не больш як тры фларыны на год... Склаў запавет, дзе загадаў цела сваё пасля смерці спаліць, а попел пахаваць пры дарозе, зрабіўшы на магіле богазняважальны надпіс...» У матэрыялах судовага працэсу над вальнадумцам захаваўся тэкст гэтага надпісу: «Падарожнік! Не абмінай гэтых камянёў. Ты не спатыкнешся на іх, калі не спатыкнешся на ісціне. Спасцігнеш ісціну ля камянёў, бо нават тыя людзі, якія ведаюць, што гэта праўда, вучаць, што гэта хлусня. Вучэнне мудрацоў — свядомы падман».

З 1674 года вальнадумец пачынае пісаць на лацінскай мове трактат пад крамольным назовам «Аб неіснаванні бога». Ягоны рукапіс не захаваўся, і меркаваць пра змест твора можна толькі па некаторых тэзісах, якія прыводзіліся на судзе. Лышчынскі лічыў, што вечная прырода існуе і развіваецца па сваіх натуральных законах. Ён адмаўляў галоўныя хрысціянскія дагматы, выкрываў крывадушнасць і карыслівасць сучаснага яму духавенства, што выстаўляла сябе ўладальнікам найвышэйшае праўды і маральнасці. У трактаце выказвалася мара пра грамадства, заснаванае на роўнасці і братэрстве, пра «свет без улады і народы без гаспадароў».

Зрабіўшыся перакананым атэістам, Казімір Лышчынскі «пачаў заражаць гэтай навукай нявінную свядомасць маладых і сталых людзей». Над бязбожнікам навісла смяротная небяспека.

Ролю галоўнага памагатага ў расправе над «здраднікам» выканаў ягоны сусед і сябар браслаўскі стольнік Ян Бжоска, які, дарэчы, быў вінен атэісту 100 тысяч талераў. Ён выкраў пятнаццаць сшыткаў крамольнага трактата, а таксама прыхапіў з бібліятэкі Лышчынскага кнігу кальвінісцкага тэолага Г. Альстэда з атэістычнымі заўвагамі на палях. На падставе напісанага Бжоскам у 1687 годзе даносу, які быў гучна названы «маніфестам», «злачынца» кінулі ў віленскую турму. Берасцейская шляхта рашуча пратэставала супраць біскупскага суда над прадстаўніком вольнага стану, і справа была перададзеная на разгляд сойма.

15 лютага 1689 года на варшаўскім сойме Рэчы Паспалітай справу Лышчынскага ўставілі ў парадак дня. Разгляд пачаўся з таго, што свецкія дэпутаты не захацелі слухаць ліфляндскага біскупа Паплаўскага, які спрабаваў выступіць з заявай супроць «ворага Бога і прыроды». Тады перад пасламі сойма з абвінаваўчай прамоваю выступіў інстыгатар Вялікага Княства Літоўскага Сымон Куровіч — юрыст з саракапяцігадоваю практыкай, бакалаўр філасофіі і вольных мастацтваў, бліскучы прамоўца. «Я абвінавачваю яго ў тым, — грымеў Куровіч, — што на 265 старонках свайго трактата ён насмеліўся паказаць Бога як няіснае стварэнне фантазіі і зрынуў яго з недасяжнай вышыні, прыпісаўшы кіраванне зямлёй і небам натуральнай прыродзе».

Пасля прамовы інстыгатара Лышчынскаму паказалі рукапісы, якія ён прызнаў сваімі. Услед за гэтым падсудны папрасіў у сойма літасці і паведаміў, што сабраныя ў трактаце атэістычныя думкі ён збіраўся зняпраўдзіць у другой частцы трактата, якую меў намер напісаць, «каб даць у ёй новыя доказы сапраўднай сутнасці Бога». Адзін з гэтых доказаў гучаў наступным чынам: «У кожным родзе істотаў ёсць найбольш дасканалая. У Сусвеце найдасканалейшае Сонца, у свеце жывёл — чалавек, а сярод разумных стварэнняў — Бог». Зразумела, што гэтакія неартадаксальныя доказы ніякім чынам не маглі задаволіць каталіцкае духавенства. За працэсам уважліва сачыў папскі нунцый Дж. Кантэльмі, які па сутнасці кіраваў дзеяннямі духоўных паслоў.

Суд доўжыўся некалькі тыдняў. Кіеўскі біскуп Залускі запатрабаваў пакарання смерцю. Бальшыня паслоў сойма пад час збору галасоў выказалася за спаленне на вогнішчы. У зацверджаным каралём Янам III Сабескім прысудзе гаварылася: «Напісаныя Лышчынскім бязбожныя лісты аддаць агню пры выканаўцы правасуддзя ў яго правай руцэ на эшафоце, самога ж абвінавачанага спаліць і ператварыць у попел. Маёмасць канфіскаваць, падзяліўшы напалам паміж даносчыкам і дзяржаўным скарбам. Будынак, у якім асуджаны тварыў ганебныя пісанні, разбурыць як прытулак вар'ята. Зямля яго маёнтка павінна навечна застацца пустэльнай і бясплоднай...»

Кароль замяніў спаленне жыўцом на адсячэнне галавы. 30 сакавіка на плошчы Старога рынку ў Варшаве кат сцяў Лышчынскаму галаву. Цела вывезлі за горад і спалілі, а попелам стрэлілі з гарматы.

Аб судзе над вальнадумцам пісала прэса Францыі, Італіі, Швецыі. Ягоныя погляды былі вядомыя ў Нямеччыне, Англіі, Гішпаніі ды іншых краінах Эўропы. Высокую ацэнку Казіміру Лышчынскаму далі беларускія прадстаўнікі каталіцкага Ордэна піяраў, якія паставілі яго ў адзін шэраг з такімі волатамі эўрапейскай філасофскай думкі, як Ваніні і Спіноза.

**У. А.**



*Пакаранне смерцю К.Лышчынскага.
Карціна мастака А.І.Сільвестрава.*



*Полацкі Сафійскі сабор пасля адбудовы вуніятамі ў сярэдзіне XVIII ст. і рэстаўрацыі ў 70–80-я гады XX ст.*

## 1 траўня 1710. Салдаты Пятра I узарвалі полацкі Сафійскі сабор

Гэтаму злачынству папярэднічалі не менш драматычныя падзеі.

Пачатак XVIII стагоддзя зноў зрабіў Беларусь тэатрам ваенных дзеянняў. Частка беларускіх магнатаў, узначаленая Сапегамі, падтрымала ў Паўночнай вайне шведскага караля Карла XII і дапамагла яму войскам. Прыхільнікі шведаў абралі сабе іншага караля і вялікага князя — Станіслава Ляшчынскага. Такім чынам Рэч Паспалітая займела адразу двух гаспадароў, паміж якімі таксама пачалася вайна. Скандынавы занялі Жамойць і Гарадзеншчыну.

Пётр I паслаў на Беларусь 70-тысячнае войска. Значная яго частка на чале з князем Аляксандрам Меншыкавым у лютым 1705 года падышла да Полацка і стала за горадам вайсковым табарам. У чэрвені сюды прыехаў сам цар. У Полацку ён выдаў маніфест, дзе забараняў шляхце збірацца на з'езды або ехаць у Варшаву на зацвярджэнне новага караля. Парушальнікаў яго вялікасць абяцаў пакараць як здраднікаў Айчыны і «истребить их имения огнем и мечом».

Цар не вылучаўся набожнасцю. Хоць ён і заходзіў у храмы, зняўшы парык, але не цырымоніўся нават з расейскім духавенствам. Што ўжо казаць пра неправаслаўных! Вуніятаў Пётр проста ненавідзеў. У хвіліну шчырасці ён сказаў свайму хаўрусніку Аўгусту II, што ў Вялікім Княстве Літоўскім мусяць застацца толькі «ваша (значыцца, каталіцкая) і наша царква». У Віцебску цар загадаў пасекчы ўсе абразы з выяваю Язафата Кунцэвіча. Не спадзеючыся на іншае і ў Полацку, манахі-базыляне адправілі срэбную труну з мошчамі святога Язафата ў Жыровічы.

Сваё стаўленне да веры нашых продкаў расейскі імператар засведчыў не дзе-небудзь, а ў кафедральным Сафійскім саборы. Аднаго дня п'яны Пётр з Меншыкавым і некалькімі афіцэрамі зайшоў у галоўны полацкі храм. Простых вернікаў-вуніятаў у Сафіі гэтай парою не было, маліліся толькі шасцёра святароў і манахаў. Цар гучна запатрабаваў наладзіць яму па святой Сафіі экскурсію. Вікар Канстанцін Зайкоўскі мусіў перапыніць імшу і падпарадкавацца. У кожным алтары цар спыняўся, і святар апавядаў пра паходжанне абразоў. Вікару хапіла мужнасці распавесці пра жыццё і пакутніцкую смерць Язафата Кунцэвіча. «Хто ж яго паслаў на той свет?» — запытаўся імператар з шалёным агнём у вачах. Вікар адвёў позірк і цвёрда адказаў: «Святога айца Язафата пазбавілі жыцця віцебскія схізматыкі».

Цар выцяў немаладога святара пудовым кулаком. Зайкоўскі ўпаў, і Пётр пачаў біць ляжачага кіем, а потым секчы шабляй. Меншыкаў выхапіў палаш і адным ударам забіў прапаведніка Феафана Кальбячынскага — той якраз прымаў перад алтаром пакутніка Язафата прычасце. Беручы прыклад з раз'юшанага гаспадара, афіцэры ўжо секлі рэгента сабornага хору Якуба Кнышэвіча, айцоў Язэпа Анкудовіча і Мялета Кандратовіча. Святыя глядзелі з абразоў, як па храме плыве крывавая ручаіна.

Старога архімандрыта Якуба Кізікоўскага царовы служкі забралі ў свой табар і ўсю ноч катавалі, патрабуючы выдаць, дзе схаваны саборны скарб. Уранні яго павесілі. У пятлі сканаў і вікар Зайкоўскі. Уратаваўся ад каранаванага ката з памагатымі адзін Язэп Анкудовіч — толькі з тае прычыны, што яго палічылі забітым. Целы пяцёх ахвяраў, паводле загада расейскага цара, спалілі, а попел развеялі над Дзвіною, каб магілы не сталі месцам паломніцтва. Дзікунскае забойства ў Сафійскім саборы выстаўляла імператара перад Эўропаю ў абліччы ўсходняга тырана, якім ён па сутнасці і быў.

Пабітых кіямі і параненых шаблямі манахаў, што прыбеглі ў дзень злачынства ратаваць вікара ды архімандрыта, цар зняволіў, а Сафію і базылянскія кляштары аддаў на рабаванне салдатам. Тыя выцягнулі з храма ўсе каштоўнасці і тры тысячы залатовак, а начальніку полацкага гарнізона прыйшоў загад не разглядаць скаргі «богомерзких» вуніятаў. Выступіўшы перад сабранаю ў Полацак беларускай шляхтай, цар папярэдзіў: няхай вуніяты і надалей не чакаюць літасці. Тут царскае слова не разыходзілася з чынам. Узімку 1707 года расейская кавалерыя абчысціла ў Менску жаночы вуніяцкі манастыр святой Тройцы (ад яго пайшло найменне сённяшняга Траецкага прадмесця). Шукаючы золата, зладзеі паламалі ў манастырскім саборы алтар і ўзадралі падлогу. Потым надышла чарга Святадухаўскай царквы на Высокім рынку (цяпер пляц Волі) ды іншых храмаў і кляштараў. Па слядах гэтых рабаўнікоў ішлі царскія казакі і калмыкі. Здабычы засталося мала, таму казакі ламаліся і ў цэрквы аднаверцаў. Менскае праваслаўнае брацтва заклікала месцічаў да зброі, і на Нямізе захопнікі атрымалі адпор.

Ад гэтых «хаўруснікаў» Беларусь за гады Паўночнай вайны зазнала гора не меней, чым ад шведаў. Продкі апынуліся паміж двух агнёў. Нядзіва, што віцебляне прызналі новага караля Станіслава Ляшчынскага і таемна паслалі шведскаму каралю сем тысяч талераў. Даведаўшыся пра «здраду», Пётр даў казакам і калмыкам загад падпаліць места Віцебскае з чатырох бакоў.

За вольнасць і незалежнасць полацкіх вуніятаў цар Пётр пакараў і святую Сафію. Адразу па забойстве пяці святароў храм апячаталі і зрабілі вайсковым складам. Тут трымалі амуніцыю, а часам і коней. Полацкі грэцка-каталіцкі ігумен Лаўрэн пісаў у Рым папу: «Не толькі кляштар дагэтуль заняты маскавітамі, але нават сама кафедральная царква, апаганеная зверскім забойствам манахаў, пазбаўлена столькі гадоў магчымасці адпраўляць святыя малітвы і даваць святое прычасце вуніятам, бо ў выніку выгнання адтуль манахаў з яе выкінулі ўсе царкоўныя рэчы». У сутарэннях сабора месцілася царскае парахавое сховішча. Досыць было іскрынкі, каб беларуская святыня ўзляцела ў паветра. І такая іскра ўспыхнула якраз напярэдадні — дзіўнае супадзенне! — адыходу з Полацка расейскіх войскаў. Выбух знішчыў сцяну, левы бакавы алтар, пашкодзіў калоны і скляпенні.

Курадымныя руіны трыццаць гадоў стаялі на Верхнім замку, нараджаючы ў сэрцах палачанаў і тых, хто плыў па Дзвіне, глыбокі смутак, нагадваючы пра цяжкія страты беларускай зямлі, якая за Паўночную вайну страціла амаль траціну свайго насельніцтва — 800 тысяч чалавек.

**У. А.**

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

